


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,
каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 19(29) ● 26 ЧЭРВЕНЯ — 2 ЛІПЕНЯ 1991 г. ● Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



## *Поступ тыдня*

Мы прывыклі: стукнула хлопцу васемнаццаць — станавіся ў строй навабранцаў. І каб «без разговорчиков» — пра хваробу, цяжкасці ў сям'і, голас сумлення... Ды вось незвычайная падзея: беларускі парламент абмяркоўвае варыянты альтэрнатыўнай службы ў арміі, магчымасці выбару для прызыўніка месца, дзе служыць. Выбар для прызыўніка... Непрывычнае спалучэнне слоў. Выбіраць нават для дэпутатаў цяжка. Пэўна, таму яны так і не прынялі закона аб праходжанні воінскай службы на тэрыторыі Беларусі. Што ж, як заўсёды, давядзецца чакаць, пакуль у іншых рэспубліках пададуць прыклад — прымуць адпаведныя дакументы.

Яшчэ нядаўна беларускія вучоныя ўступілі ў сапраўдны бой са сваімі маскоўскімі калегамі — вырашалі лёс «трыццаціпяцібэрнай канцэпцыі пражывання» на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі. А вось новая бітва. Цяпер ужо з саноўнымі зарубежнымі спецыялістамі. У штаб-кватэры МАГАТЭ на міжнароднай канферэнцыі па праекту «Радыелагічныя вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС у СССР» беларускія эксперты разам з украінскімі рэзка раскрытыкавалі вывады замежных спецыялістаў аб уздзеянні радыяцыі на людзей. Пажадаем жа ім поспехаў і ў гэтай нялёгкай спрэчцы!

Некалі ў Расіі існаваў падатак «на дым» — пячны комін, з-за якога многія людзі жылі ў курных хатах. Даўні адміністрацыйны загіб, варты вясёлага жарту? Каб жа. Не так даўно дзесяцігадовы Алесік Краўцоў з Асіповіч атрымаў пагрозлівы квіток выплаціць падатак у 117 рублёў. Налічылі ж на яго фінансісты гэтую «недзіцячую» суму за тое, што хлопчык здаў на нарыхтоўчы пункт 389 кілаграмаў гаючага багуну і 71 кілаграм братак. Усё — па закону. А мы хочам, каб у аптэках былі прыродныя лякарствы...

Пабывалі чацвёртакласнікі мінскай школы № 7 у Раўбіцкім музеі народнай творчасці і захацелі стварыць у сваім класе куток такіх жа прыгожых вырабаў. Бацькі падтрымалі задуму. Асабліва ўсхвалявалі дзяцей саматканы ручнік, падораны ім бабуляй Каці Бабровай: любаваліся ім, гладзілі рукамі, прыкладалі да твараў. Затым усе разам напісалі пісьмо Валянціне Анісімаўне з падзякай. А колькі яшчэ такіх скарбаў захоўваецца ў бабульчыных куфрах!

З просьбай аб дапамозе звярнуліся да мінчан ініцыятары стварэння на базе сярэдняй школы № 26 Беларускага нацыянальнага мастацкага ліцэя. Меркавалася, што ён будзе садзейнічаць у адраджэнні беларускай культуры. Ды вось толькі сродкаў на адкрыццё ліцэя не знайшлося. Цікава, ці адклікнуцца спонсары, каб ажыццявіць незвычайную задуму...

## НОВЫ ПРАДМЕТ У ШКОЛЕ

**«Як паветра, стаў патрэбны нам сёння новы прадмет у школе — беларуская нацыянальная культура,— піша «Настаўніцкая газета».— І хоць ён яшчэ не выдзелены асобна ў раскладзе заняткаў, у навучальным плане, але ў многіх школах пачаў жыць і набіраць сілу».**

**Пацвярджэннем таму можа служыць раённы семінар «Беларускія нацыянальныя абрады: заручыны, вясельны каравай», які адбыўся нядаўна ў Жыцькаўскай сярэдняй школе Барысаўскага раёна. Госці школы пабывалі на ўроках-спектаклях па тэмах «Вясельны каравай» і «Заручыны». Многія з іх упершыню ўбачылі прыгожыя народныя абрады.**

**Цёпла, утульна ў беларускай хаце-святліцы. Гучаць у ёй трапныя выслоўі, песні, маладыя пары выконваюць вясёлыя танцы. У ролі ўдзельнікаў святочнага абраду — самі настаўнікі, вучні. Яны не толькі выконваюць пэўныя абрадавыя дзеянні, але і расказваюць аб добрых традыцыях продкаў, аб беражлівых адносінах да іх.**

**Сама Жыцькаўская школа робіць для гэтага вельмі многае. Тут створаны краязнаўчы і этнаграфічны музеі, накоплены немалы педагагічны вопыт. Таму і спадабалася настаўнікам усё, што яны ўбачылі на гэтым незвычайным семінары.**

*Але! Але!*

## А ЎРАД ДЛЯ НАРОДА...

Апошнім часам, як пасля дажджу грыбы, у кіёсках з'яўляюцца ўсё новыя і новыя выданні, што не можа не радаваць чытачоў. Адно шкада, што яны амаль усе рускамоўныя.

14 чэрвеня ў кіёсках Саюздруку з'явілася новая газета са шматабяцальнай назвай «Рэспубліка». Дзе звычайна пісалася «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!», змешчана вядомае выказванне Кастуся Каліноўскага «Не народ для ўрада, а ўрад для народа». Цікава, што ж урад дае народу, акрамя абяцанак і законаў? І я з радасцю купіў першы нумар «Рэспублікі», але радасць мая хутка знікла, калі пачаў гартаць газету. На 12 старонках,— акрамя назвы «Рэспубліка», прозвішча рэдактара (Мікалай Кернога), заснавальніка газеты (Савет Міністраў БССР), а таксама матэрыялаў на дзявятай старонцы,— усё ідзе на рускай мове. Выклікае роздум і ўступнае слова рэдактара «Мы начинаем», дзе ён прама заяўляе: «Газета будет выходить на русском и белорусском языках, что в полной мере отражает сложившуюся сегодня в республике двуязычную реальность. Итак, мы начинаем. Пожелайте нам творческих удач». Вось табе і «Рэспубліка»! Вось табе і Закон аб мовах!

Віктар ШНІП.

## *Другі з'езд Таварыства беларускай мовы*

14—15 чэрвеня 1991 года ў мінскім Доме літаратара адбыўся II з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Змест работы з'езда вызначаўся ідэяй яднання ўсіх беларусаў і прыхільнікаў беларускай мовы ў барацьбе за роднае слова.

Збіраць нацыянальныя сілы, кансалідаваць этнас, а не займацца самаедствам; ідэалогіі прыходзяць і сыходзяць, а Беларусь застаецца; лёс мовы — лёс народа. Такія думкі былі ключавымі ў большасці выступленняў. Дэлегатаў з'езда хвалявалі многія пытанні: гэта і невыкананне Закона аб мовах у Беларускай ССР, ігнараванне яго, перш за ўсё, дзяржаўнымі структурамі (А. Лозка, І. Навумчык, Л. Цімохін, В. Вабішчэвіч); і адсутнасць дагэтуль у рэспубліцы дзяржаўнага суверэнітэту як самае вялікае няшчасце для народа (М. Ціхончык, С. Суднік, М. Байкачоў); і нацыянальны нігілізм (Г. Пяткевіч, айцец А. Надсан, М. Кадыка); і пытанні рэфармацыі сучаснай беларускай мовы, асабліва правапісу (С. Запрудскі, Г. Цыхун, В. Вячорка, А. Белакоз, А. Мальдзіс); і пытанні культуры народа і культуры маўлення, нацыянальнай сімволікі, тапанімікі (Н. Загорская, А. Марачкін, У. Юрэвіч, Р. Генюш); і работа суполак ТБМ у Беларусі і далёка за яе межамі (П. Юшчук — Польшча, В. Суднік, Н. Загорская, Г. Пяткевіч і інш.).

Цешыць тое, што непакой за роднае слова на з'ездзе выказвалі не толькі вучоныя, пісьменнікі, настаўнікі, ваенныя, студэнты і г.д., але і члены беларускага ўрада: намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР М. І. Дзямчук, міністр замежных спраў рэспублікі П. К. Краўчанка, намеснік міністра народнай адукацыі БССР Л. К. Сухнат. А Старшыня Савета Міністраў БССР В. Ф. Кебіч запэўніў з'езд, што з верасня 1991 года яго рабочай мовай стане беларуская мова.

(Матэрыялы з'езда чытайце на 3—6, 8 старонках).

## ЗАЯВА ДЭЛЕГАТАЎ II З'ЕЗДА ТБМ

(Да пытання пра Саюзны дагавор)

II з'езд ТБМ імя Ф. Скарыны заяўляе, што выкананне статутных мэт Таварыства, ключавая з якіх — дасягненне беларускай мовай рэальнага статусу дзяржаўнай мовы на Беларусі, яе выратаванне і адраджэнне — магчымае толькі пры ўмове палітычнай незалежнасці Беларускай дзяржавы. З'езд звяртаецца да Вярхоўнага Савета Беларусі з настойлівым патрабаваннем надаць Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР канстытуцыйны статус, не дапусціць уступленне Беларусі ў палітычныя саюзы і падпісанне ёю адпаведных пагадненняў да прыняцця Канстытуцыі суверэннай рэспублікі Беларусі. Толькі незалежная і дэмакратычная Беларусь — гарант прыярытэтных правоў і гістарычнай перспектывы беларускай мовы — зможа адстаяць і захаваць дзеля агульналюдскага дабра сваю культурную самабытнасць.



На здымку: удзельнікі з'езда (злева направа) — В. Вабішчэвіч, старшыня Столінскай рады ТБМ; Я. Лецка, старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»; У. Ягоўдзік, рэдактар газеты «Дзеці і мы»; У. Калеснік, загадчык кафедры Брэсцкага педагагічнага інстытута; У. Пусташыла, загадчык аддзела культуры Докшыцкага райвыканкома; Ф. Палачанін, супрацоўнік Докшыцкага райана.

Фота У. Крука.

 



# ЗАРУКА НАШАЙ НЕЎМІРУЧАСЦІ

## *Мова — для таго, каб нас яднаць*

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

Шаноўныя дэлегаты і госці!

Два гады назад на першым устаноўчым з'езде ў Мінску было створана Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Гэта падзея ў культурным і грамадска-палітычным жыцці рэспублікі мела і працягвае мець значэнне надзвычайнае — хто б што ні думаў і ні гаварыў наконт яе і тады, на пачатку, калі Таварыства ўзнікала, і сёння, калі завяршаецца этап яго станаўлення. Што дае падставы менавіта гэтак глядзець на стварэнне і жыццядзейнасць нашай культурна-асветніцкай арганізацыі? Каб адказаць на гэта пытанне і — каб зразумець справядлівасць такой ацэнкі таго, што ўсе мы, сябры Таварыства, робім, — для гэтага неабходна вельмі ясна ўяўляць рэальны стан Беларусі на сучасным этапе гісторыі, рэальнае палітычнае, сацыяльнае і культурнае становішча нашага народа, яго духоўнае жыццё-быццё, становішча яго мовы, што значыць — лёс яго будучыні. Гісторыя — паўторым гэту відочную ісціну яшчэ раз — дала нам шанц, упусціць які мы, беларусы, і ўсе, хто жыве побач з намі, па-брацку спагадае нам, не маем права. Больш таго — упусціць гэты шанц было б проста ганебна, бо гэта было б з нашага боку здрадай жыццёвым інтарэсам беларускага народа, яго адвечным запаветным марам і спадзяванням. Беларусь — у каторы раз за сваю трагічную тысячагадовую гісторыю — ставіць перад сабой задачу нацыянальнага Адраджэння, здабыцця дзяржаўнага, эканамічнага і духоўнага суверэнітэту. Беларусь уступіла ў вельмі адказную паласу свайго гістарычнага развіцця. Без усведамлення гэтага, без асабістай гатоўнасці кожнага падключыцца да Адраджэння, да беларусізацыі ўсяго нашага жыцця — беларускі народ як нацыя не ўваскрэсне, Беларусь як дзяржава не здзейсніцца. Вось чаму дзейнасць Таварыства беларускай мовы найцесным чынам звязана з беларускай ідэяй у яе агульным сэнсе і практычна падпарадкавана задачы нацыянальнага Адраджэння Беларусі. У гэтым — адметнасць нашага Таварыства сярод аналагічных моўных таварыстваў у цывілізаваным свеце. У адрозненне ад іншых народаў, мы ўсё яшчэ вымушаны змагацца за жыццё мовы. Ні ў адной цывілізаванай краіне свету гэтакай праблемы — жыць або не жыць сваёй роднай мове — няма. Там ёсць іншыя праблемы, на якія скіроўваецца клопат навукоўцаў, дзеячаў асветы, культуры і ўсёй шырокай грамадскасці, а іменна: удасканаленне правапісу літаратурнай мовы, узбагачэнне і ачышчэнне нацыянальнага слоўніка, культуры мовы, узаемаадносіны літаратурнай мовы і мясцовых гаворак і іншае. Але — паўтараю — няма праблемы: жыць або не жыць мове.

Вось я і задаю пытанне — сабе, усім вам, дэлегаты і госці з'езда, усім сябрам Таварыства і ўсім добрым людзям — сумленным грамадзянам Бацькаўшчыны: колькі яшчэ мы будзем змагацца за жыццё нашае роднае мовы? Калі мы пачнём радавацца і толькі радавацца, што яна ёсць, і ёсць менавіта такая, якая ёсць, і што ёй нішто не пагражае? Колькі стагоддзяў назад за жыццё нашай мовы змагаліся Скарына, Будны, Цяпінскі, Сапега і іншыя вялікія; паўтараста ці трохі менш гадоў назад за яе жыццё змагаліся Дунін-Марцінкевіч, Каліноўскі, Багушэвіч і іншыя вялікія; на пачатку XX стагоддзя за жыццё роднага слова змагаліся Купала, Колас, Цётка, Багдановіч, Гарэцкі і іншыя вялікія; пазней — за яе жыццё пайшлі на Калыму, на Салаўкі або ў Курапаты тысячы і тысячы іншых і вялікіх і радавых патрыётаў Бацькаўшчыны. Прайшло яшчэ паўстагоддзя, завяршаецца XX век — і што ж? А ўсё тое ж: барацьба працягваецца! І сёння наша мова застаецца на асобым становішчы.

І сёння мы думаем і клапоцімся аб тым, як яе ўратаваць, што маем рабіць, каб наш беларускі народ не страціў сваю мову канчаткова. Што ж гэта за такая праклятая доля, калі цягам цэлых стагоддзяў мы вымушаны адваёўваць для роднае мовы права на жыццё? Ці не задоўга гэтае змаганне цягнецца? Ці не пара рашуча пакончыць з гэтым бяспраўным становішчам народа і яго культуры? Ці не пара ўсім зласліўцам-нядобразычліўцам нашым, як і ўсім тутэйшым слепакам, зразумець, што геній нашае мовы несмяротны, што яе сіла і моц неадольныя, і што ўсе намаганні паглынуць яе, растварыць у стыхіі іншай мовы — марныя?

У такой гістарычнай сітуацыі, у такой грамадска-палітычнай атмасферы і ўзнікла і пачало працаваць наша Таварыства. Яго высакародныя стратэгічныя мэты і канкрэтныя задачы, як і галоўныя накірункі яго дзейнасці выразна акрэслены ў Статуце, і, думаю, няма патрэбы тут нанова пералічваць іх. А вось што ўдалося практычна зрабіць за час, даўжынёй у два гады, — на гэтым дазвольце зусім каротка запыніцца. Вядома, толькі на самым галоўным, спадзеючыся, што таварышы, якія будуць браць словы, істотна дапоўняць і ўдакладняць агульны абрыс жыццядзейнасці Таварыства, пры гэтым — не паскупяцца на крытыку і самакрытыку, на слушныя парады і прапановы, прадыктаваныя жаданнем наладзіць нашу працу як найлепш, каб поспехаў дасягнуць як найбольшых.

Якія галоўныя задачы ставіла і старалася вырашыць Таварыства?

Па-першае, стварэнне суполак і арганізацый на ўсёй тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі — там, дзе жывуць беларусы. На сёння нашы арганізацыі створаны амаль ва ўсіх гарадах і раёнах Беларусі — прынамсі, хоць першасныя разрозненыя суполкі, калі не раённыя і гарадскія арганізацыі. Раённых сябрын — па апошніх звестках — 90. Заснаваны і жыццядзейнічаюць суполкі і сябрыны Таварыства ў Маскве і Ленінградзе, у Сібіры і на Украіне, у Эстоніі, Латвіі і Літве. Гэтак сама і ў замежжы — у прыватнасці, ў ЗША, Аўстрыі, Італіі, Польшчы. Існаванне філій Таварыства па-за межамі Беларусі мае асаблівае значэнне — бо гэта працуе на вялікую беларускую ідэю, спрыяе абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці, садзейнічае згуртаванню ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны вакол ідэй Адраджэння.

Па-другое, нашым клопатам было стварэнне курсаў і гурткоў па вывучэнню беларускай мовы — на прадпрыемствах, у дзяржаўных установах, у грамадскіх арганізацыях, у ВНУ, тэхнікумах і вучылішчах. Справа гэта аказалася нялёгкай, маштабы і плён гэтай працы задаволіць нас, на жаль, не могуць. Якія, спытаеце, таму прычыны? Галоўнае — слабае выкананне Закона аб мовах у Беларускай ССР: людзі ў большасці сваёй яшчэ не адчулі, што названы Закон пачаў здзяйсняцца, што беларускую мову сапраўды і ўсур'ёз неабходна вывучаць: авось, маўляў, і абыйдзецца, ці мала ў нас прымалася розных законаў, якія не дзейнічалі. Апрача таго, тармозіць справу і недахоп кадраў выкладчыкаў на курсах беларускай мовы; тут жа патрэбны свядомыя, шчырыя, калі хочаце, апантаныя энтузіясты, а яны не ўсюды знаходзяцца.

Трэцяе, што мы лічылі і лічым надзвычай важным, — выдавецкая дзейнасць Таварыства. Першнаперш нам патрэбна было сваё перыядычнае выданне — у дапамогу ўсёй практычнай рабоце і, галоўнае, для размовы з чытачамі пра наш агульны вялікі клопат аб роднай мове і культуры. Такім выданнем, як вы ведаеце, стаў бюлетэнь «Наша слова», які ў мінулым годзе выходзіў цалкам на апякунскія сродкі Дзяржкамдруку БССР раз у месяц, а сёлета — ужо на дзяржаўным бюджэтным фінансаванні, раз у тыдзень, праўда, покуль што ва ўдвая меншым аб'ёме. Паставіць на ногі выданне, якое б адпавядала свайму прызначэнню і набыло свайго вернага чытача, — нялёгка. Але іншага лёсу мы нашаму тыднёвіку не жадаем. І мы ўскладаем на яго вялікія спадзяванні. Цяжкасць задачы, якая стаіць перад рэдакцыйным калектывам і рэдкалегіяй, вынікае з таго, што наша выданне ў вядомым сэнсе павінна быць узорным і, калі хочаце, непераўзыдзеным. Маю на ўвазе культуру мовы, бляск стылю, эстэтычны і маральны ўзровень матэрыялаў, якія ў ім публікуюцца. Каб — ні ценю пошласці, каб і на дух нічога ад дэмагагічна-таннай і вульгарнай мітынгоўшчыны, ад дробязнага абывацельскага крытыканства, і ўжо крый бог — ад элементарнай непісьменнасці. Спадзяюся, дэлегаты і госці скажуць, якой яны хочуць бачыць сваю галоўную газету. Гэтаксама, як і іншыя выданні Таварыства, што пачалі выходзіць у некаторых раёнах і гарадах рэспублікі (напрыклад, у Навагрудку, у Маладзечне). Надзвычай важна, каб такія бюлетэні мясцовых арганізацый Таварыства хоць зрэдчасу выходзілі — не забудзем, што друкаванае слова ўсё яшчэ валодае вялікай магічнай сілай.

Апрача газеты «Наша слова», ТБМ распачало выданне беларускіх слоўнікаў і навуковых кніг, а таксама пэўнай сувенірнай прадукцыі. Праўда, магчымасці нашы тут вельмі і вельмі нязначныя. Патрэбны грошы, патрэбна папера, а найперш — патрэбна добразычлівае стаўленне да гэтых нашых клопатаў з боку дзяржавы і грамадскасці.

Яшчэ адзін вялікі важны аспект нашай працы — непасрэдны ўдзел і дапамога ў пераводзе справаводства на беларускую мову, у тым, каб беларускай станавілася рабочая, службовая мова на прадпрыемствах і ва ўстановах, у набыцці беларускага аблічча візуальным афармленнем нашых гарадоў і вёсак, вуліц і рэкламы... А ў першую чаргу — у пераводзе на беларускую мову школ, тэхнікумаў і ПТВ, інстытутаў і універсітэтаў. Тут перад намі яшчэ непачаты край работы. Хаця ёсць і вельмі ўцешныя прыклады, якія пацвярджаюць недарэмнасць нашых намаганняў і ўсяляюць у сэрца надзеі. Так, на цагляным заводзе ў Радашковічах, дзе дырэктарам сябар мясцовай рады ТБМ Віктар Сігізмундавіч Лазар, справаводства ўжо даўно пераведзена на беларускую мову. Паспяхова беларусізуецца навучанне ў сталічным тэхналагічным інстытуце, дзе рэктарам Іван Міхайлавіч Жарскі. Не сумняваюся, што прамоўцы парадуюць нас інфармацыяй і пра многія іншыя падобныя факты.

Асобна належыць сказаць пра немалыя заслугі ТБМ у справе дэмакратызацыі нашага беларускага парламента. Можа, не ўсім зразумела, што маецца на ўвазе? Гаворка аб тым, што ад нашай тэбээмаўскай, так бы мовіць, «курыі» ў Вярхоўны Савет рэспублікі прайшло больш дзесяці народных дэпутатаў, якія, не пабаімся папроку ў нясціпласці, вылучаюцца ў дэпутацкім корпусе дэмакратызмам поглядаў, парламенцкай ініцыятыўнасцю і актыўнасцю і набываюць вядомасць у якасці палітычных дзеячаў. Праўда, не абышлося без пэўных страт для ТБМ: старшыня і два яго намеснікі апынуліся на выбарных штатных пасадах у Вярхоўным Савеце, дзе аб'ём работы такі, што на Таварыства пачало заставаца ўсё менш часу.

*Працяг на 4-й стар.*

# ЗВАРОТ

## да грамадзян Беларусі, да беларусаў, якія жывуць ва ўсім свеце, да прыхільнікаў беларускага слова

**Шаноўныя беларусы! Прыхільнікі беларускага слова!**

**Мінула два гады, як адбыўся Устаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. За гэты час унесены важкі ўклад у справу абароны і пашырэння беларускага слова не толькі на Беларусі, але і за яе межамі. Прыняты Закон аб мовах у Беларускай ССР, зацверджана Дзяржаўная праграма яго ажыццяўлення. Прыняты Закон аб культуры, разгледжаны ў першым чытанні Закон аб адукацыі. Шмат карысных спраў робяць арганізацыі Таварыства беларускай мовы ў Вярхоўным Савеце і Савеце Міністраў БССР, у шэрагу мясцовых Саветаў народных дэпутатаў. Суполкі ТБМ ёсць на Украіне, у Расіі, Літве, Латвіі, Эстоніі, Карэліі, Казахстане. Створаны яны таксама ў ЗША, Канадзе, Аўстрыі, Італіі, Польшчы...**

**Аднак і сёння, як дзесяць, трыццаць, пяцьдзесят гадоў назад, святая святых нацыянальнай культуры — беларуская мова — у небяспецы! Мы не здолелі яшчэ адысці ад мяжы духоўнага знікнення. Яшчэ раскашуе на нашай зямлі прававы і нацыянальны нігілізм. На фоне цяжкай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы апошнім часам становішча беларускай мовы ў пэўных сферах грамадскага жыцця не палепшылася, а нават пагоршылася.**

**Закон аб мовах у Беларускай ССР, які з такой цяжкасцю быў прыняты, ігнаруецца — перш за ўсё дзяржаўнымі структурамі. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, пераважная большасць народных дэпутатаў Беларусі і членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, урада БССР не даюць прыкладу паважлівага стаўлення да беларускай мовы, хаця закон прыняты парламентам. Дзе яшчэ ў свеце можна знайсці такое, каб закон аб мовах ігнараваўся большасцю саміх заканадаўцаў? Таму не дзіва, што Дзяржаўная праграма па ажыццяўленні Закона аб мовах у Беларускай ССР, Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі пакуль не сталі абавязкам ў службовай дзейнасці кожнага дзяржаўнага служачага — ад міністра да работніка ніжэйшага звяна.**

**Вельмі слаба асвятляе чарговую «беларусізацыю» на сваіх старонках рэспубліканскі друк. Мала таго, у некаторых выданнях з'явіліся зневажальныя публікацыі ў адносінах да нашай мовы, дзеячаў беларускай культуры, пісьменнікаў. Ні ў адной краіне народ не дазволіў бы, каб так ахайваліся яго святыні, лепшыя прадстаўнікі нацыі. Гэта толькі цярплівыя беларусы могуць зносіць такое. Але далей так жыць нельга!**

**Мы, дэлегаты II з'езда Таварыства беларускай мовы, пасланцы рабочых, сялян, інтэлігенцыі, прадстаўнікі розных партый і беспартыйныя, атэісты і набожныя, заклікаем усіх грамадзян Беларускай ССР паважаць, ахоўваць і развіваць духоўныя скарбы народа Беларусі, авалодваць беларускай мовай і шанаваць яе.**

**Мы звяртаемся да ўсіх беларусаў, якія жывуць па-за сваёю Бацькаўшчынай, — смялей далучацца да нашых клопатаў, словам і справай дапамагаць адраджэнню мовы роднай зямлі.**

**Мы звяртаемся да народных дэпутатаў рэспублікі і заклікаем іх рабіць усё магчымае, каб карэнны народ Беларусі мог плённа і поўна рэалізоўваць свой духоўны і культурны патэнцыял ва ўласным доме. Заклікаем беларусаў з пашанай ставіцца да культур і моў людзей іншых нацыянальнасцей на Беларусі. Дапаможам ім адчуваць сябе не чужымі на нашай зямлі, каб яны ахвотна спасцігалі нашу гісторыю і культуру, вывучалі беларускую мову.**

**Звяртаемся да ўсіх грамадскіх арганізацый рэспублікі, вернікаў усіх канфесій з заклікам шанаваць беларускую мову як дзяржаўную і ўсямерна спрыяць яе пашырэнню ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.**

**Заклікаем пісьменнікаў, работнікаў асветы, культуры, сродкаў масавай інфармацыі шырэй прапагандаваць беларускую мову на ўсіх узроўнях, смела выкрываць факты ігнаравання яе асобамі любога рангу.**

**Суайчыннікі! Культура нацыі без культуры роднай мовы — бяссэнсіца. Таму ўдасканальвайце веды па беларускай мове, ахвотна вывучайце яе. Стварайце суполкі Таварыства беларускай мовы паўсюль, дзе іх няма. Старайцеся ўсімі сіламі абудзіць гістарычную памяць у тых, каго яшчэ трымае ў палоне ганебны нацыянальны нігілізм. Сваім асабістым прыкладам паказвайце, як павінна гучаць беларускае слова ў вуснах кожнага жыхара рэспублікі.**

**Дык няхай квітнее гэтае слова на нашай зямлі ва ўсе будні і ў святы! Жыве Беларусь!**

### Другі з'езд Таварыства беларускай мовы

# Мова — для таго, каб нас яднаць

*Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.*

Не стану спыняцца на гаспадарча-фінансавых справах Таварыства. Пакарыстаюся толькі магчымасцю, каб з гэтай высокай з'ездаўскай трыбуны яшчэ раз выказаць самую шчырую падзяку ўсім хто сваім запрацаваным рублём падтрымлівае жыццядзейнасць Таварыства.

Трохі аб тым, што перашкаджала і не дазволіла Таварыству ва ўсіх названых аспектах яго дзейнасці зрабіць больш. Тут я перш за ўсё назваў бы нашу агульную ўсенародную бяду — нізкую нацыянальную самасвядомасць, або нацыянальны нігілізм, з якога вынікае негатоўнасць шырокіх колаў грамадскасці зразумець значэнне ТБМ, жыццёвую неабходнасць яго ўтварэння. Калі чалавек абыходзіцца без роднай мовы і не адчувае ў ёй ніякай патрэбы — дык навошта яму яшчэ нейкае Таварыства, дзеля чаго, маўляў, і кім яно прыдумана? Горшы варыянт такое пазіцыі — а ці не будзе гэта Таварыства асяродкам беларускага нацыяналізму, якога трэба баяцца як чорт крыжа. На вялікі жаль, неадназначныя, няроўныя былі адносіны да ТБМ з боку тых дзяржаўных і грамадскіх сіл, ад якіх многае залежала, у прыватнасці, ад раённых і гарадскіх арганізацый КПБ, ад мясцовых органаў савецкай улады. Там, дзе ідэю стварэння Таварыства зразумелі правільна — як народжаную самім часам патрэбу ў грамадскай чыннасці дзеля адраджэння роднай мовы і культуры, — там ТБМ з першых крокаў атрымала належную арганізацыйную і маральную падтрымку. Пераканаўчы прыклад таму — актыўная пазіцыя тагачаснага Мінскага гаркома КПБ, дзякуючы якому ў сталіцы хутка ўзніклі гарадская і дзевяць раённых арганізацый Таварыства, а рэспубліканскі кіраўнічы штаб ТБМ атрымаў досыць прыстойнае памяшканне. Другі не менш паказальны прыклад, аб чым я ўжо гаварыў сёння, — гэта фундатарская шчодрасць Дзяржкамдруку БССР, які цалкам узяў на сябе на цэлы год кошт выдання «Нашага слова». Разам з тым, у некаторых гарадах і раёнах партыйнае і савецкае кіраўніцтва паставілася да нашага Таварыства насцярожана і нават больш чым насцярожана. Паколькі нашы людзі прывыклі на ўсякую грамадскую дзейнасць атрымліваць дазвол зверху, то па гэтай — не ў апошнюю чаргу — прычыне да гэтага часу не ўсюды ў рэспубліцы створаны раённыя арганізацыі ТБМ. Як-то кажуць: сумна, але факт! Дзеля справядлівасці трэба дадаць, што не толькі зацятыя «антыдэмакраты-партакраты» так непрыхільна сустрэлі ідэю стварэння ТБМ, але і некаторыя «радыкалы-дэмакраты». Помніцца, як яшчэ задоўга да ўстаноўчага з'езда ТБМ сёй-той з крайніх левых змрочна прарочыў, што з узнікненнем Таварыства ў рэспубліцы стане на адну казённа-бюракратычную арганізацыю больш — і толькі.

Зрэшты, і да гэтага часу адносіны да ТБМ з боку палітычных партый, грамадскіх рухаў і арганізацый у большасці выпадкаў такія, што радавацца нам няма чаго. Скажам, з новастворанных і зарэгістраваных партый хіба што толькі БСДГ спрабуе ад першых крокаў сваіх даць прыклад шчырага шанавання беларускай мовы і прынцыпова патрабуе выканання Закона аб мовах. Сярод недасведчаных шырока ходзіць памылковая думка, што БНФ як рух аб'ядноўвае адных шанавальнікаў беларускай мовы і, больш таго, — амаль адных «беларускіх нацыяналістаў». Рэальнасць гаворыць пра іншае. Помню, на прадвесні мінулага года актывісты БНФ сабралі на вуліцы мітынг, на якім заклікалі выбаршчыкаў галасаваць за свайго кандыдата ў народныя дэпутаты БССР. Беларускім словам і наогул беларускім духам там нават і не патыхала — ні ад кандыдата ў дэпутаты, ні ад яго давераных асоб. І менавіта гэтыя давераныя і іх сябры зрабілі ўсё, каб у дэпутаты не прайшоў канкурэнт іхняга кандыдата, сябар рэспубліканскай рады ТБМ прафесар Іван Міхайлавіч Жарскі. Галоўны козыр у руках бэнэфаўцаў быў такі: Жарскага вылучалі ў кандыдаты камуністы, партыйная арганізацыя. Дастаткова, каб ні з чым іншым не палічыцца. Для чаго я запыніўся на гэтай ужо даўняй падзеі? А для таго, каб сказаць: тут прычына нашага нацыянальнага няшчасця. У нашым самаедстве. Замест таго, каб усяляк падтрымаць кандыдатуру патрыёта беларускага слова — спадары «дэмакраты» безаглядна рэжуць яе нібыта ў імя дэмакратыі і свабоды. Свабоды — для каго і для чаго? Скажыце: вам трэба свабода, дзе не будзе гучаць беларускае слова? Дзе ад «свабоды» задыхнецца апошняя беларуская песня? Дзе будзе свабодна паміраць Беларусь? Мне такая «свабода» непатрэбна. І не трэба напускаць тэарэтычнага туману, што, так бы мовіць, спачатку здабудзем свабоду, здабудзем хлеб і каўбасу, а тады падумаем і пра беларускую мову. Дазвольце ў гэтыя байкі не паверыць. Свабоду для Беларусі і для беларускай мовы можа здабыць толькі народ, узброены родным словам! І ваяваць гэтым словам трэба цяпер, а не некалі пасля, тады, калі... Як жа, з увагі на сказанае, зразумець, што кіраўнікі дэмакратычных партый Беларусі апублікавалі ў «Народнай газеце» зварот да народных дэпутатаў рэспублікі на рускай мове? А чаму ж, шаноўныя спадары, не на мове народа, ад імя якога ўвесь час вяшчаеце? Што — для выказвання беларускіх клопатаў і беларскага болю іншая мова падыходзіць лепш, чым свая родная, беларуская? Значыць, вы такой думкі пра найкаштоўны скарб беларускага народа?

Вось пра што, дарагія дэлегаты і госці, трэба нам усім думаць. Не партыйным і не сацыяльна-класавым крытэрыем трэба нам, дбаючы пра ТБМ, кіравацца, а толькі любоўю да роднага слова і верай у яго прыгажосць і сілу!.. І радыкал-дэмакрат, раўнадушны да лёсу нашае мовы, а значыць і нашае нацыі, нічуць не лепшы для нас, чым гэтакі ж раўнадушны партакрат-камуніст. Гэтак сама, як абыякавы да роднае мовы беларус праваслаўнае веры не менш грэшны перад Богам, як гэтакі ж абыякавы беларус-католік. Мова павінна яднаць усіх нас, мова!...

Дарэчы, можа быць, не ўсе пры-

### Сем мінут у спрэчках

## Хіба няма нацыянальна свядомых педагогаў?

**(З выступлення А. Лозкі)**

Неабходна ўключыць у школьную праграму новы прадмет для ўсіх класаў— «Беларусазнаўства», куды б увайшлі беларускі фальклор, этнаграфія, краязнаўства, народная музыка, харэаграфія, тэатр, віды народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, дойлідства, а таксама рамёствы, промыслы і іншае. Беларус павінен ведаць усё беларускае і ганарыцца ім.

Некаторыя сябры ГБК у вольны час працуюць над такой праграмай і дапаможнікамі. Спадзяёмся, што нешта ўжо будзе надрукавана ў гэтым годзе. Ды вось бяда! Ці захоча ўсё гэта прыняць нядаўна створаны часовы навукова-даследчы калектыў, які павінен працаваць над тым, над чым мы працуем у вольны час? Пра ягоны склад я маўчу. А кіраўніком калектыву прызначаны і адобраны Пастаяннай камісіяй Вярхоўнага Савета БССР чалавек, які не гаворыць на роднай мове, дацэнт кафедры сацыялогіі і палітычнай гісторыі Гродзенскага медыцынскага інстытута. Я разумею, магчыма, гэты чалавек вельмі прыстойны, адукаваны, магчыма, перад вялікім назначэннем добра вывучыў сутнасць пытання і нават, як і М. І. Дзямянцей, некалі вывучыць мову. Але не разумею, хіба ж няма ў нас нацыянальна свядомых педагогаў, спецыялістаў?

Задоўга да ўтварэння піянерскай арганізацыі, у 1907 годзе, былі створаны першыя скаўцкія атрады, якія ў Расіі былі разагнаны ў 1919 годзе за тое, што змагаліся за нацыянальнае Адраджэнне. Аднак у заходняй частцы Беларусі альтэрнатыўная арганізацыя праіснавала, па-сутнасці, да вераснёўскага далучэння, а ў некаторых краінах Заходняй Еўропы скаўты існавалі і пасля Айчыннай вайны. У мінулым годзе намі былі арганізаваны першы беларускамоўны скаўцкі летнік «Грунвальд».

І як брыдка было чытаць нядаўна ў газеце «7 дней» інтэрв'ю з «лидером белорусских скаутов», якія знайшлі сабе цёплае месца, штаб-кватэру ў ЦК камсамола! Я, безумоўна, нічога не маю супраць сяброўства з альтэрнатыўнымі арганізацыямі. Але «лідэр» ад імя беларускіх скаўтаў, г. зн. нашых дзяцей, заяўляе аб сваім «першапраходстве» ў адраджэнні новага руху, аб сяброўстве з таварыствамі «Русь», «Отечество» і інш., а таксама выступае супраць беларускага нацыяналізму. Тут каментары не патрэбны.

Яшчэ Н. К. Крупская заўважала: «Нам многому неабходна вучыцца ў бойскаўтызму, але супрацьпаставіць бойскаўтызму зусім іншыя, камуністычныя мэты,... за якія *юкі* (значыць юныя камуністы — *А. Л.*) будуць гатовы развітвацца з жыццём». Гэтыя мары былі паспяхова здзейснены за гады таталітарызму пад дэвізам: «Юный пионер! К борьбе за дело Коммунистической партии будь готов!» І разлічваліся нашы хлопцы ў чужых краінах за чужыя мэты і палітычныя амбіцыі.

Сёлета ў нашым скаўцкім летніку «Грунвальд», што ля Койданава, будзе адпачываць 200 дзяцей. Шкада, што не ўсіх шматлікіх жадаючых мы задаволілі. У адным летніку мы ўжо не змяшчаемся. Прапаную, каб Савет Міністраў і ЦК камсамола перадалі ТБМ адну змену лагера «Зубраня», а затым і больш, пакуль у гэтай установе па-беларуску не навучацца гаварыць выхавацелі, якія там працуюць.

Сёлета закончыла вучобу адзіная і першая мінская адзінаццацікласніца, якая вучыла ўсе прадметы па-беларуску. Гэта — Лісіцына Насця. Чаму б Міністэрству народнай адукацыі, улічваючы сапраўдную мужнасць і вялікую настойлівасць дзяўчынкі і яе бацькоў, не зрабіць загад аб прыняцці яе без іспытаў у адну з ВНУ Мінска.

## Благаславі, Божа...

**(З выступлення айца Надсана з Лондана)**

Я з радасцю прыехаў на II з'езд ТБМ, але галоўнай мэтай майго прыезду з'яўляецца прывоз лекарскай дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы. У гэтым годзе ўсе беларусы Англіі адзначаюць 20-годдзе беларускай бібліятэкі ў Лондане. Жывучы далёка ад сваёй радзімы, мы здзіўляемся, што беларусам трэба ратаваць сваю мову на роднай зямлі. І я як святар хачу сказаць, што кожны чалавек павінен размаўляць з Богам толькі на роднай мове, бо толькі тады Бог пачуе чалавека. Вітаю ўсіх беларусаў, змагароў за Адраджэнне, ад усіх беларусаў Лондана. Хай жа Бог благаславіць усе вашы найлепшыя памкненні.

## Запіскі ў прэзідыум

*Даруйце за «рэзкую» прапанову, але гэта трэба зрабіць, каб нам выжыць — стварыць РЭСПУБЛІКАНСКІ КАМІТЭТ ВЫРАТАВАННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ, надзяліўшы яго асаблівымі паўнамоцтвамі, каб можна было звальняць з працы тых, хто не ведае і не хоча ведаць нашай мовы і культуры.*

Генадзь КАХАНОЎСКІ.

* * *

*Чым тлумачыцца такі факт, што, як толькі загаварылі пра беларусізацыю, Міністэрства народнай адукацыі рэзка зменшыла колькасць гадзін на вывучэнне роднай мовы?*

* * *

*Шаноўны Ніл Сымонавіч!*
*1. Вы сказалі, што ЦК КПБ вырашыў за паўтара года перайсці на беларускую мову. А калі на яе пяройдзе Вярхоўны Савет БССР?*
*2. Прашу Вас узяць шэфства над М. І. Дзямянцеем і навучыць яго беларускай мове.*

С. ЗЫЛЬКОЎ,
сябра рады ТБМ г. Гродна.

* * *

*Чаму ў свой час беларускія школы закрывалі загадам, а сёння члены ТБМ павінны змагацца за адраджэнне мовы ў школах, агітаваць бацькоў, дырэктараў школ, загадчыкаў рана?*
*Дык хто павінен ажыццяўляць закон: члены ТБМ ці ўсё ж такі Міністэрства адукацыі?*

Дэлегаты і госці Стаўбцоўскай рады ТБМ.

### Сем мінут у спрэчках

## Тэлебачанне і радыё — беларусам

**(З выступлення М. Кадыкі)**

Колькі слоў хацеў бы сказаць пра беларускае тэлебачанне. У большай ступені яно беларускае па назве, а не па змесце. Першае, што кідаецца ў вочы,— гэта дрэннае валоданне журналістамі мовай. На тэлебачанні амаль адсутнічае сапраўды беларускі рэпертуар. Прычына, думаецца, у тым, што супрацоўнікі БТ карыстаюцца роднай мовай па службовым абавязку, але не жывуць у гэтай мове, у яе асяродку. Адсутнасць нацыянальнага гонару ў вядучых тэлеперадач прыніжае не толькі іх саміх, але і абражае тых, хто яшчэ лічыць сябе беларусам у душы. Прыкладаў можна прывесці шмат. Вось адзін з іх. У тэлеперадачы «Крок» святар з царквы Марыі Магдалены паўтарае словы сваёй прыхаджанкі пра тое, што на беларускай мове можна толькі сварыцца, а ў храмах яна блага гучыць. Тым самым праз тэлебачанне праводзіцца ідэя, што беларусам са сваёй мовай не месца ў храмах і г. д. Вядучыя аніяк не адрэагавалі на гэта. Ім не балела. Паўплывала ўсё тая ж адсутнасць нацыянальнага гонару.

Я ўжо не кажу, што на тэлебачанні ідуць не дубліраваныя на родную мову мастацкія, дакументальныя, мультыплікацыйныя фільмы. Ці не абсурд тое, што мы глядзім па беларускім канале «Паўлінку» на рускай мове.

На радыё лепшае становішча. Але не вельмі. Шмат перадач усесаюзнага радыё. Відаць, праз нежаданне працаваць. Самае простае — не ствараць сваіх перадач, а трансляваць чужыя. Чаму на беларускім радыё існуе перадача «Друзьям русского языка»? Чаму замест яе не адкрыць адпаведную перадачу па прапагандзе беларускай мовы?

## Навошта нам штучны Саюз?

**(З выступлення М. Байкачова з Ніжняга Ноўгарада)**

Саюзны дагавор нам, беларусам і Беларускай дзяржаве, не патрэбен. Калі асэнсаваць нашую гісторыю, дык добра бачна адно — заўсёды нас прымушалі, сілком, гвалтам пхалі ў розныя імперыі ды саюзы, каб смактаць нашую жыццёвую моц. Менавіта так адбываецца і зараз.

Нас які раз прывабліваюць агульнай славяншчынай. Але калі добра прыглядзецца, дык нашыя суседзі, як з Захаду, так і з Усходу, болей дбаюць пра сваю маёмасць. Дык браты і сёстры беларусы, мо прыйшоў час змяніць становішча, скончыць слухаць усю гэтую лухту, а ўзяць рашуча кірунак па сваім асабістым беларускім шляху?! Калі мы будзем моцныя і незалежныя, з намі зноў будуць лічыцца. Як раней лічыліся крыжакі, манголататары ды маскоўскія князі.

Трэба толькі ўсядоміць, што КПСС і КПБ — гэта адно і тое ж. І таму супрацьпаставіць гэтаму монстру можна толькі беларускага волата — адзіную моцную беларускую супольнасць.

У Беларускай нацыянальнай дзяржаве дзяржаўнай мовай павінна быць адна — беларуская. І не праз год ці праз пяць, а зараз. Раджаць цяжка, але чамусьці роды не цягнуцца па некалькі гадоў.

Нам патрэбна незалежная і самастойная дзяржава, беларускі нацыянальны сойм, нацыянальнае войска, нацыянальныя ахоўчыя фармаванні, нацыянальная варта на межах, мытня, служба бяспекі, суд, пракуратура. Патрэбны беларускі нацыянальны банк і ўласныя грошы. Абавязковае беларускае грамадзянства. Незалежнасць і самастойнасць хрысціянскага служэння на Беларусі. Мова казанняў павінна быць беларускай. Беларуская нацыянальная эканоміка мусіць будавацца на тых жа прынцыпах, як і эканоміка ў іншых дэмакратычных краінах, з улікам нацыянальных асаблівасцей. Міжнацыянальныя адносіны трэба будаваць з пункту гледжання нашага нацыянальнага прыярытэту.

Дзеля адраджэння мы маем усё — працавітае грамадства, адносна развітую дзяржаву, выгаднае месцазнаходжанне, глебу, лясы, ваду і шмат іншага. Дык трэба не марнаваць час, не распыляць сілы, а будаваць сваю беларускую нацыянальную дзяржаву, дзе мэтай усіх намаганняў, усіх здзяйсненняў будзе чалавек, і дзе чалавечы розум, дадзены нам Богам, разам з сумленнем будуць вышэй усякай д'ябальскай лухты, у якую б вопратку яна не апраналася.

сутныя звярнулі ўвагу на адзін досыць прыемны факт. Колькі дзён назад бюро ЦК КПБ абмеркавала пытанне пра ажыццяўленне Закона аб мовах у Беларусі і паставіла перад партарганізацыямі задачу — зрабіць на працягу паўтара года беларускую мову сваёй рабочай мовай. Не будзем рабіць выгляд, што мы вельмі ўзрадаваны гэтым крокам ЦК КПБ, які можна было зрабіць і даўным-даўно, тым не менш — крок паказальны, сімптаматычны, ён сведчыць, што трохі-патрохі ў нашым грамадстве буравіца апоры нацыянальнага нігілізму, набірае сілу тэндэнцыя росту нацыянальнай самасвядомасці народа, а гэта — неабходная перадумова для поўнай у хуткім часе перамогі беларускай мовы на беларускай зямлі.

Якія, падсумоўваючы сказанае, можна зрабіць высновы? Папершае, скажам так: Таварыства ёсць, яно жыве і працуе, дакладней — разгортвае працу, плёны, вядома, яшчэ невялікія, вопыту накоплена яшчэ небагата, але будзем даражыць тым, што напрацавана, што дасягнута, і ісці наперад, паколькі і галоўныя цяжкасці і галоўныя перамогі яшчэ наперадзе.

Па-другое, усім, каму сёння балюча за стан нашае мовы, трэба ясна ўсвядоміць неабходнасць кансалідацыі і згуртавання нашых шэрагаў, зразумець тую вялізную шкоду, якую прычыняе справе адраджэння беларускай мовы і культуры неразумная канфрантацыя, разлад і нязгода...

Па-трэцяе, нам трэба вызначыць найбольш важныя канкрэтныя задачы і галоўныя накірункі дзейнасці ТБМ на блізкую і на далёкую перспектывы. Не прэтэндуючы на ўсеахопнасць, абазначу сёе-тое з таго, што ўяўляецца значным і важным. Тут не будзе нейкай іерархічнай паслядоўнасці, а проста свабодны накід думак, якія здаліся мне ў большай ці ў меншай меры слушнымі.

Трэба ўсімі магчымымі, зразумела, канстытуцыйнымі спосабамі дабівацца ажыццяўлення Закона аб мовах у Беларускай ССР, каб беларуская мова заняла ў Беларускай дзяржаве сапраўды дзяржаўнае становішча.

Трэба патрабаваць ад усіх дзяржаўных і іншых службоўцаў хутчэйшага аваладання імі беларускай мовай і пераходу на гэтую мову на працы, ставячы ім у прыклад ну хаця б сабе цяперашняга папу рымскага, які, у адрозненне ад дзяржаўных татаў беларускіх, гаворыць з беларускімі дзецьмі па-беларуску.

Трэба асабліва настойліва змагацца за беларусізацыю школ, дзіцячых садкоў і ясляў, помнячы, што скрозь, ва ўсім свеце, выхаванне дзіцяці яшчэ ад калыскі пачынаецца ў гуках матчынай мовы, што, напрыклад, у заможнай і культурнай Швецыі вывучэнне іншай, другой мовы, уводзіцца ў школе толькі з пятага класа, калі ўжо дзіця ў стыхіі сваёй роднай мовы плавае як рыбка ў вадзе.

Трэба зрабіць нашым заўсёдным агульным, я сказаў бы, дзяржаўным і ўсенародным клопатам — клопат пра культуру роднае мовы, пра яе чысціню і прыгажосць, вучачыся гэтаму ў іншых высокакультурных нацый, напрыклад, у тых жа французаў, якія яшчэ ў 1634 годзе прынялі закон аб ахове чысціні мовы, у якіх, не кажучы пра шматлікія моўныя таварыствы і асацыяцыі, створаны ажно тры спецыяльныя дзяржаўныя органы, што кантралююць стан мовы, і якія пераканаваны, што ўзвелічэнне і ўзвышэнне Францыі і яе культуры залежыць ад мовы, здзяйсняецца праз культуру, прыгажосць і велічнасць мовы. Больш таго, у Францыі ад валодання роднай мовай можа залежаць вынік палітычнай барацьбы ў перадвыбарчай кампаніі. Абвінавачванне: «Ён не ведае граматыкі французскай мовы» — вельмі моцнае, яго можа быць дастаткова, каб кандыдат у дэпутаты праваліўся.

Трэба вярнуць нашай роднай мове яе сапраўднае беларускае аблічча, страта якога пачалася яшчэ ў праклятыя часы сталіншчыны і працягваецца дагэтуль, помнячы, што ворагамі нашай культуры, яе свабоды і самабытнасці, стаўка была зроблена менавіта на гэта — пазбавіць беларускую мову яе ўласнага аблічча, яе непаўторнага цудоўнага гучання. Зрабіць нам гэта будзе няпроста і нялёгка, бо перашкодай тут будуць не толькі афіцыйна замацаваныя пачварныя нарматывы, не толькі казённы дагматызм, але і тое разгульнае моўнае свавольства, якое пачынае набываць у нас небяспечныя памеры і сведчыць не пра што іншае, як пра нізкі эстэтычны густ, прыродную глухату да слова і звычайную непісьменнасць.

Трэба пакончыць з гвалтоўнай палітызацыяй і ідэалагізацыяй у мове, у нашай тапаніміцы і антрапаніміі, зрабіць жыццё мовы і развіццё яе жывога арганізма свабодным і натуральным, што магчыма толькі тады, калі ў сваіх адносінах да мовы, да яе граматыкі, да яе слоўніка, сінтаксісу і фразеалогіі будзем абапірацца на навукова аб'ектыўныя асновы, будзем паважаць вялікую навуку лінгвістыку, помнячы, што гэта навука не толькі пра законы развіцця мовы, пра структуру і жыццядзейнасць Слова, якое было напачатку і якое было Бог, але і навука пра законы развіцця чалавека, пра строй і жыццё душы чалавечай, душы народа.

Трэба павесці вялікую выхаваўчую работу сярод тых людзей, — а іх у нас вельмі многа, — у галовах якіх усё яшчэ сядзіць недарэчнае, нялюдскае перакананне, што шанаваць і любіць беларускую мову — гэта нацыяналізм і адсталасць, а вось выракацца сваёй мовы, пагарджаць і грэбаваць ёю — гэта інтэрнацыяналізм і адзнака культуры; такую работу мы павінны весці не толькі сярод беларусаў, але і сярод людзей іншых нацыянальнасцей, пераконваючы гэтых апошніх, што ад іх адносін да беларускай мовы і культуры вельмі залежыць агульны грамадска-палітычны клімат у рэспубліцы, што справа гонару кожнага з іх — спрыяць нашаму нацыянальнаму Адраджэнню, толькі справядлівасць у адносінах да мовы і культуры беларускага народа абернецца выйгрышам на карысць іх уласнай нацыянальнай культуры.

Трэба наогул шырэй і актыўней заняцца філалагічна-лінгвістычным выхаваннем насельніцтва Беларусі, асабліва моладзі, моладзі і яшчэ раз моладзі, чыя моўная практыка і культура іншы раз не проста засмучае, а выклікае пачуццё, блізкае да роспачы: гэта ж няшчасныя людзі, як ім жыць, абяздоленым, асуджаным на такі бездухоўны прымітыў, на такое ўбогае бязмоўнае існаванне! З пачуццём пашаны і любові да роднае мовы трэба выхоўваць у людзей і веру ў яе несмяротнасць, напамінаючы залатыя словы Вісарыёна Бялінскага, што «лёс мовы не можа залежаць ад прыхамаці той ці іншай асобы. У мовы ёсць ахоўнік надзейны і верны: гэта яе ж уласны дух, геній...»

Будзем жа і мы ўсе верыць у гэты геній і пакланяцца несмяротнаму Духу нашай роднай беларускай мовы.

Будзем усім сэрцам і кожнай клетачкай душы слухаць, што ён нам, дзецям маці-Беларусі, гаворыць.

Жыве Беларусь!

## Сем мінут у спрэчках

## Патрэбна палітыка жорсткага нацыяналізму

**(З выступлення С. Судніка)**

Прыемна было чуць у выступленні спадара Краўчанкі, што ў Празе рэстаўрыруецца друкарня Францішка Скарыны. Прыемна, і я радуюся за Прагу, а ў гэтым часе ў друкарні Сымона Буднага ў Нясвіжы прадаюць цвікі.

Прыемна чуць, што папа рымскі вітае беларускіх дзетак у Рыме па-беларуску, і мне радасна за Рым. А ў гэты час у Нясвіжы ў трыццаці метрах ад помніка Сымону Буднаму мніхі навучаюць асновам веры тых жа беларускіх дзетак. Яны вучаць іх па-руску, а малітвы прымушаюць завучваць па-польску.

Прыемна чуць, што ЮНЕСКА нешта там думае пра Мірскі замак. І мне радасна за ЮНЕСКА. А ў гэты час у Нясвіжы найвыдатнейшы замак, ратуша, гарадская брама, кляштар выкарыстоўваюцца як папала. Практычна знішчаны ўнікальны парк Альба, з астатніх паркаў толькі Стары і Японскі ў больш-менш нармальным стане. На вачах гіне славуты Англійскі парк. Мне балюча за Беларусь, дзе сотні такіх Нясвіжаў. Я ўпэўнены, што з Прагай, Рымам і ЮНЕСКА ў нас усё будзе добра. Дома ў нас кепска.

Перад вамі выступае старшыня суполкі ТБМ г. Прыазёрска Джазказганскай вобласці Казахскай ССР, рэдактар незалежнай беларускай газеты «Рокаш». На сённяшні дзень беларускія суполкі сярод вайскоўцаў створаны, акрамя нашай, у Новасібірску, Маскве, Мурманску, Хабараўску, Цверы, Калінінградзе.

У Казахстане 180 тысяч беларусаў. Зараз створаны беларускі культурны цэнтр у Алма-Аце, там жа зарэгістравана Асацыяцыя выпускнікоў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. На верасень прызначана ўстаноўчая канферэнцыя згуртавання беларусаў Казахстана «Бацькаўшчына».

Мы маем 6 дэпутатаў Вярхоўнага Савета Казахстана. Галоўны кірунак нашай дзейнасці — эканамічнае супрацоўніцтва, эканамічная дапамога Беларусі...

Што датычыць нашай суполкі ў Прыазёрску, дык яна складаецца з афіцэраў. Мы адкрылі нядзельную беларускую школу і вось ужо год як вялі заняткі. Карыстаючыся гэтай трыбунай, хачу выказаць падзяку сотням людзей, якія даслалі нам падручнікі і кнігі. Гэтых людзей няма, і мне радасна за Беларусь.

Мы далёка ад Беларусі і, магчыма, трохі памыляемся, але нам бачыцца стан беларускай мовы як крытычны. Крытычны стан беларускай нацыі. У мінулым стагоддзі такі стан быў у чэшскай нацыі. Тады чэшская «Яднота» выпрацавала шэраг тэрмінаў, паводзін чэха, статут чэшскай сям'і. Чэхі выраталіся.

Мы выпрацавалі штосьці падобнае і назвалі гэта ўмоўна «палітыкаю жорсткага нацыяналізму». І не трэба баяцца гэтага слова. Наш жорсткі нацыяналізм датычыць толькі беларусаў і ніяк не закранае іншыя народы рэспублікі. Не трэба баяцца прымяніць сілу. Над беларускай нацыяю стагоддзямі чынілі гвалт, то мо пара і агрызнуцца.

## Ці з'яднае новы дэкрэт?

**(З выступлення Г. Цыхуна)**

Пры ўсіх нашых спрэчках адносна правапісу беларускай мовы, не трэба забываць, што адна з функцый літаратурнай мовы — гэта кансалідацыя этнасу, а ў рамках літаратурнай мовы адну з першых роляў у кансалідацыі народа мае правапіс. Ужо стаў банальным прыклад таго, як іерогліфы ў кітайскай мове яднаюць усіх кітайцаў незалежна ад таго, што многія жыхары суседніх правінцый могуць не разумець адзін аднаго пры вусным кантакце.

Я яшчэ падкрэсліў бы адзін момант. Рэформа 1933 года была праведзена гвалтоўна, без дасягнення папярэдняй згоды розных частак беларускага этнасу, больш таго — шляхам ігнаравання думкі значнай часткі носьбітаў беларускай літаратурнай мовы. У выніку гэтага акту адзінства правапісу было парушана і беларусы раздзяліліся. Існуюць фактычна дзве правапісныя нормы.

У гэтай сувязі некаторыя выступаюць за неадкладнае правядзенне рэформы, прычым зноў дэкрэтным шляхам.

Але я хацеў бы спытаць, ці не прыйдзем мы да стану, калі ў нас пачнуць дзейнічаць тры ці болей правапісных нормаў? Бо несумненна, што тая норма, якая будзе прынята, не будзе ідэнтычнай ні сучаснаму правапісу, ні т. зв. альтэрнатыўнаму.

## Запіскі ў прэзідыум

*Вуліца Леніна, універсітэт імя Леніна, плошча Леніна, Ленінскі праспект... А чаму не праспект Скарыны і універсітэт Скарыны?*

* * *

*Лічу неабходным Радзе ТБМ абмеркаваць ужыванне слова «таварыства» — яно, мяркую, чужое. Чаму ўсё ж не Сябрына беларускай мовы?*

БАГІНСКАЯ.

* * *

*Вядома, што Уніяцкая царква ў свой час зрабіла многа дзеля захавання і развіцця беларускай мовы. Чаму цяпер не зарэгістравана Уніяцкая царква і не аддадзена ёй ніводнага памяшкання?*

* * *

*Паслухаўшы выказванні розных прамоўцаў на II з'ездзе ТБМ, я падтрымліваю правапіс «ь» ва ўсіх словах, дзе ён чуецца. Але я ніколі не чула слоў «клясы» з «літарай «я», «Лёндан» з літарай «ё», і я супраць гэтага. Я толькі за дзяржаўную беларускую мову. Калі ў Беларусі беларусы павінны ЗМАГАЦЦА за адраджэнне беларускай мовы, то прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей маглі б быць больш памяркоўнымі і не патрабаваць ад нас дапамогі ў развіцці іх моў.*

М. ЦЯЛЯК.

* * *

*Дабіцца, каб святары, накіраваныя з Польшчы, атрымоўвалі парафію пасля праходжання імі курсаў беларускай мовы. Гэта мера зменшыла б працэс паланізацыі беларускага насельніцтва.*

## Сем мінут у спрэчках

## Задачы вызначыла канферэнцыя

**(З выступлення М. Барбука)**

На нядаўняй канферэнцыі Светлагорскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны мы. падводзілі вынікі за паўгоддзе. Гучалі ў асноўным крытычныя і самакрытычныя выступленні. Нам яшчэ трэба ўмацаваць першасныя суполкі. Для гэтага вырашылі праводзіць дні ТБМ на прадпрыемствах і і ва ўстановах, стварыць гарадскую тапанімічную камісію па перагляду назваў вуліц і мікрараёнаў. Мы прынцыпова не пагадзіліся з гербам Светлагорска, зацверджаным на адным з пасяджэнняў гарвыканкома. Сваю пазіцыю выказалі ў адкрытым лісце да народнага дэпутата Беларусі, старшыні гарадскога Савета Аляксандра Серафімавіча Якабсона. Аднак нашы аргументы пакуль не знайшлі разумення.

Па нашай прапанове неўзабаве сесія гарадскога Савета абмяркуе ход выканання Закона аб мовах. Мы возьмем актыўны ўдзел у гэтым абмеркаванні. Ужо даслалі свае прапановы ў праект рашэння сесіі. У ім, у прыватнасці, прадугледжваем адкрыццё ў Светлагорску беларускага ліцэя, выдаткаванне сродкаў з гарадскога бюджэту, неабходных для ажыццяўлення дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы. Імкнёмся вырашыць пытанне аб даплаце настаўнікам і выхавальніцам, якія працуюць на роднай мове ў школах і дзіцячых садах. Будзем спадзявацца, што сесія гарсавета распрацуе і зацвердзіць праграму «Родная мова», у якой дэталёва прадугледзіць выкананне Закона аб мовах.

І вядома ж, мы вельмі спадзяёмся на тое, што гэты з'езд дасць нам яшчэ больш дакладныя арыенціры ў нашай рабоце.

## Дыскрымінацыя правоў беларускіх дзетак

**(З выступлення Р. Генюша)**

У мінулым годзе сябры Слонімскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны не раз сустракаліся з кіраўнікамі Слонімскага гарвыканкома. У час сустрэч кіраўнікі цвёрда запэўнівалі нас, што ўсё зробяць для нацыянальнага Адраджэння. Мы прапанавалі ім адкрыць у Слоніме хоць адну беларускамоўную школу. Аднак яны гэтага не зрабілі, спасылаючыся на цяжкасці з настаўнікамі і падручнікамі. Зразумела, адразу ж вось так узяць і адкрыць школу з беларускім выкладаннем па ўсіх прадметах вельмі складана. Выкладанне на роднай мове трэба ўводзіць паступова, крок за крокам: лепш рыхтаваць настаўнікаў, павялічваць тыражы беларускіх падручнікаў і г. д. Але хіба ўтульна будуць адчуваць сябе дваццаць шасцігодак беларускамоўнага класа сярод тысячы і больш вучняў рускамоўных класаў школы? Для гэтай няшчаснай меншасці ўводзіцца як бы нейкая рэзервацыя. Лічу, што тут адбываецца працэс дыскрымінацыі дзетак-беларусаў. Ды ўсё цяжэй становіцца агітаваць бацькоў за тое, каб іхнія дзеці навучаліся ў гэтых беларускамоўных класах. Бацькі ж бачаць у гэтым працэсе абыякавыя адносіны да роднай мовы з боку кіраўнікоў, а таму прыходзяць да высновы, што навучанне на ёй бесперспектыўнае. Часта ж здараецца і так, што дзеці, якія ў садку наведвалі беларускамоўную групу, ідуць вучыцца ў рускамоўны клас. Вось адзін з прыкладаў таму, што я сказаў.

У мінулым годзе выхавальніца 11-га дзіцячага садка Ірына Войтка выпусціла першую беларускамоўную групу — адзіную ў 50-тысячным горадзе. Бацькі шаснаццаці хлопчыкаў і дзяўчынак з гэтай групы падалі заявы ў беларускамоўны клас сярэдняй школы № 6, але дзетак параскідалі па рускамоўных класах. Сёлета ўжо дзве беларускамоўныя групы, больш як 60 чалавек, зноў развітваюцца з гэтым садком. Але, які іх лёс чакае наперадзе,— цяжка сказаць, бо ў гэтай шостай школе 1 верасня зноў не будзе ніводнага беларускамоўнага класа.

Па-першае, трэба дадаць, што гэта школа з англійскім ухілам і на гэтай падставе дырэкцыя адмаўляецца ствараць беларускамоўныя класы. А вельмі добра было б, каб гэтая школа спецыялізавалася з англійска-беларускім ухілам. Па-другое, няма патрэбных англійска-беларускіх слоўнікаў. Яны неабходны дзецям, якія вучацца ў такіх спецшколах.

## Другі з'езд ТБМ

На II з'ездзе старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны зноў абраны пісьменнік, прафесар, народны дэпутат БССР, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч.

Зацверджаны новы склад Рэспубліканскай Рады ТБМ, першае пасяджэнне якой адбылося пасля з'езда. На пасяджэнні абраны сакратарыят Рады і рэдакцыйная калегія «Нашага слова», зацверджаны рэдактар газеты.

### Сакратарыят Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

**Алесь БАГДАНОВІЧ (арганізацыйны сакратар)**
**Вольга КУЗЬМІЧ**
**Леанід ЛЫЧ**
**Зміцер САНЬКО**
**Барыс САЧАНКА**
**Алег ТРУСАЎ**
**Яўген ЦУМАРАЎ**

**Спіс Рэспубліканскай Рады ТБМ будзе змешчаны ў наступным нумары.**

## Пытанне — адказ

# Дзе вучыцца беларусу?

*Шаноўныя спадары «нашаслоўцы»! Калі ў вас ёсць магчымасць, надрукуйце, калі ласка, адрасы беларускіх школак. Ці хаця б васьмых класаў з навучаннем на роднай мове. Дужа патрэбна. Тужліва вучыцца толькі па-руску на Радзіме.*

*З вялікаю павагаю*
*Алесь АЛЯХНОВІЧ.*
*г. Мінск.*

Шаноўны спадар Алесь, з ліста мы зразумелі, што ў гэтым годзе ты скончыў сем класаў. Віншуем! Некалі гэта лічылася даволі грунтоўнай адукаванасцю — калі сямігодка яшчэ мела назву прагімназіі. Яно і цяпер можна за гэтулькі гадоў прыдбаць нямала ведаў — было б жаданне. І, дарэчы, у школе з любой мовай навучання тое зрабіць і застацца пры гэтым свядомым беларусам. Як было яшчэ ў сівым XVI стагоддзі, калі беларускія хлопцы ехалі вучыцца ў Кракаў польскі, хто ў Прагу чэшскую, хто ў Сарбону французскую, а хто ў Падую італьянскую ці Рым — а пераважная большасць з іх усё ж вярталася ў родны край, каб узнімаць менавіта культуру беларускую. Самы яскравы прыклад — Францішак Скарына. У больш познюю эпоху — Кастусь Каліноўскі, які ў імперскім Пецярбургу ва універсітэце вучыўся. Ці ж параўнаць гэта з сённяшнім часам, калі беларусы ўжо сёе-тое маюць! Вядома, табе, сябра, ад такіх назваў не лягчэй, але і тужыць не варта.

А зараз змяшчаем колькасць беларускамоўных школ, а таксама школ з беларускамоўнымі класамі, згодна са звесткамі Міністэрства народнай адукацыі. Тут лічбы не толькі па Мінску, але і па ўсёй рэспубліцы, бо пытанне — дзе знайсці беларускамоўную школу ў родным краі, непакоіць не аднаго цябе, шаноўны наш чытач Алесь.

У 1990—91 навучальным годзе (па абласцях):

| | Школ з беларускай мовай навучання | Школ з беларускамоўнымі класамі |
|---|---|---|
| Брэсцкая | 548 | 51 |
| Віцебская | 581 | 66 |
| Гродзенская | 551 | 105 |
| Гомельская | 489 | 59 |
| Магілёўская | 493 | 24 |
| Мінская | 759 | 93 |
| г. Мінск | — | 91 |

Звесткі падрыхтаваны інфармацыйна-аналітычным цэнтрам МНА БССР. Спадзяёмся, на 1991—92 навучальны год будуць змены ў лепшым накірунку.

Тым, каго цікавяць канкрэтныя адрасы школ, раім звярнуцца ў свой гарадскі ці раённы аддзел народнай адукацыі.

Рэдакцыя мае намер прасачыць развіццё падзей, а таксама ўдакладніць лічбы беларускамоўных школ — колькі з іх усё ж поўнакласных, сярэдніх і ці не пакідаюць нашы адукатары свядомым беларускім дзецям толькі магчымасць вучыцца чытаць буквар?

## Ваш Ко-Ко ў Вярхоўным Савеце

**Днямі ў рэдакцыю газеты «Наша слова» зноў завітаў Ваш Ко-Ко. Твар задаволены, нагавіцы напрасаваныя, шкарпэткі белыя і гальштук матылём. Кажа: здабыў пропуск у Вярхоўны Савет, харчуюся выключна сасіскамі, магу вам матэрыялаў падкінуць. Вядома, да твораў Вашага Ко-Ко адносіны ў чытачоў розныя. Але, паразважаўшы, рэдакцыя вырашыла і надалей прытрымлівацца плюралізму.**

# АД НАШАГА ПАРЛАМЕНЦКАГА КАРЭСПАНДЭНТА — ПАКЛОН

**Вось што, таварышы дэпутаты. Адзін раз, думаю, прыхваліць вас можна. Абы не разбэсціліся праз гэтыя прыхвалы, не заганарыліся задужа. Бо наш народ дзіўны нейкі: усялякія выбрыкі стрывае, адно фанабэрыю — не. Не любім чамусьці мы тых, хто гусаком ходзіць. Таму, гаворачы дзякуй, адразу заклікаю вас да сціпласці.**

**Дзякуй вам, любыя мае, што Саюз імкнецеся захаваць. Гэта вельмі прыстойны ўчынак. Праўда, ніхто з вас яшчэ не растлумачыў уцямна, што гэта будзе за саюз, але няхай будзе. У гаспадарцы ўсё спатрэбіцца. Нешта прынцыпова новае балазе. Таму вам і дзякуй. Вялікі-вялікі, амаль бясконцы. Ад Буга да Курылаў. Мне вашая логіка даспадобы. Слушна думаеце: самі па сабе мы шмакадзяўкі нейкія. Ну, амаль што ніхто. У еднасці сіла. У супольнасці народаў. Усе разам мы гэтакае адкапылім, што свет не надзівуецца. Рана яшчэ легендарнае суполле развальваць. Не ўсе рэчкі мы яшчэ назад павярнулі і не ўсе балоты ды мары ператварылі ў пустэльні. Ды і атамных электрастанцый панабудавалі зашмат, каб зараз разбегчыся ў розныя бакі. Я лічу, калі разам будавалі, дык разам і вынікі ліквідоўваць трэба. Не, пэўна што рана замыкацца ў нацыянальных кватэрах. Наперадзе ва ўсіх нас вялікія задачы. Паасобку голас наш нячутны. А разам на ўвесь свет гыркнуць можам. Скажам Чэхаславаччыне, каб сацыялістычнай звалася — і будзе звацца. Скажам Хведару Кастрову, каб бляклых з твару настаўнікаў матэматыкі, што добра з аўтамата страляюць, у Афрыку прыслаў, — і прышле. Загадаем, каб сонца ўначы свяціла,— і будзе свяціць. Няхай глядзіць у нашае аконца па дваццаць чатыры гадзіны ў суткі. І будзе глядзець. А загадаем, дык і ўсміхацца будзе. Зззяць у акенцы. Хай толькі не паслухае нашага магутнага голасу.**

**Вось і не ведаю, як вам, шаноўныя таварышы, аддзячыць за вашыя мудрыя памкненні. З вашае ласкі ў мяне душа пяе голасам народнага артыста. Ведаеце, гэтак пра шырыню «страны родной». Хацеў быў па сувеніру вам купіць, ды нічога карыснага ў краме няма, адно вырабы з саломкі. Хоць ты грашыма заплаці! І заплаціў бы. Аднак хачу вам тайну адную адкрыць і папярэдзіць: надта не чакайце ад мяне ні падарункаў, ні грошай. Каб было вас крыху меней, а зарабляў бы я трохі болей (ды яшчэ каб за халасцячыну не вылічалі), дык я на вас з удзячнасці свой заробак за месяц патраціў бы. Дадушы кажу! Ажно пры сённяшнім становішчы не бачу сэнсу ахвяроўвацьгрошы: кожнаму з вас і на палову сняданка не набяжыць, і ў мяне нічога не застанецца. Таму пакуль што прыміце мой шчыры дзякуй! Асабліва гэта таварыша Шаладонава датычыць. Слушна вы, таварыш, заўважылі наконт таго, што Саюз у рэспубліку завозіць шмат усялякага дабра. Рана, вельмі рана некаторыя дэпутаты (ёсць, на жаль, гэтакія) думаюць выйсці з Саюза. Няхай згадаюць: «Богатства наши несметны». Не ўвесь яшчэ кедроўнік у Сібіры пасеклі, не ўсю нафту высмакталі, не ўсе руды павыкопвалі. Не ўсё разбазарылі. Таму рана. Вось калі праядзім усе багацці, тады і прыспее час падумаць, каб у нацыянальнай кватэры з усімі зручнасцямі замкнуцца. Адзінае, што сёе-тое і нашае давядзецца ў агульны кацёл кінуць. Затое рэчкі павернем, балоты павысушваем, сонца ззяць прымусім... Выгод болей, чым страт. Карацей, цікавае жыццё толькі пачынаецца. За гэтае ўсім таварышам дэпутатам,хто прагаласаваў за падпісанне Саюзнага дагавора, нізкі паклон і вечная слава. Доўга вас будуць помніць.**

Ваш Ко-Ко.

## З рэдакцыйнай пошты

*Адно са шматлікіх пісьмаў, якія паступаюць на адрас сесіі Вярхоўнага Савета БССР, трапіла ў рэдакцыю «Нашага слова». Мы вырашылі пазнаёміць з ім сваіх чытачоў.*

# ЗНЯВАЖЫЛІ МОВУ

Паважаныя таварышы дэпутаты! Народныя дэпутаты! Пры зацвярджэнні парадку дня сесіі Вы дапусцілі найгрубейшую памылку.

Не зацвердзіўшы пытанне аб беларускай мове ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, Вы зняважылі самае дарагое для кожнага беларуса — яго мову.

Ні адзін сумленны беларус Вам гэтага не даруе. Як жа Вы можаце называць сябе дэпутатамі беларускага народа, выразнікамі яго інтарэсаў? Ці не таму ў Вас у парламенце пануе хаос і непаразуменне? Нават кіраўнік Вярхоўнага Савета т. Дземянцей ці не ўмее, ці не хоча размаўляць на беларускай мове. Толькі і паўтарае тыя словы, што высвечваюцца на табло. Грэбуючы беларускай мовай, Вы тым самым падрываеце свой дэпутацкі аўтарытэт, выклікаеце ў большасці беларусаў варожа адносіцца да тых з Вас, хто гэтага заслугоўвае.

Заклікаю Вас: вярніцеся яшчэ раз да абмеркавання гэтай важнай праблемы. Вы ж прымалі Закон аб мовах. Дык чаму Вы не паслядоўныя, чаму адказваецеся ад прынятага Вамі ж Закона?

У мяне склалася ўражанне, што многія з Вас трапілі ў дэпутаты выпадкова. Бо не слугі Вы народа, а ў адносінах да мовы — яго здраднікі. Думаю, што мае гнеўныя словы знойдуць водгук у Вашых сэрцах, у Вашай свядомасці.

На заканчэнне нават не ведаю, што Вам пажадаць. Найбольш я жадаю народнай падтрымкі тым дэпутатам, якія абараняюць беларускую мову, мову Багушэвіча, Купалы, Коласа. Вось гэта былі патрыёты. Ва ўмовах царскага рэжыму адстойвалі мову свайго народа. А Вы???

**Міхась ВАЛЬКО,**
**настаўнік з Нясвіжа.**

## Варта прыслухацца

### За кім пойдзе моладзь?

Асноўная частка актывістаў ТБМ — людзі сярэдняга і сталейшага ўзросту. Хто прыйдзе ім на змену?

**Чаму б не стварыць на ўзроўні Рэспубліканскай Рады ТБМ камісію па працы з моладдзю? Чаму б гэтай камісіі не распрацаваць Палажэнне аб арганізацыі Саюза моладзі Беларусі? Чаму б не распрацаваць цыкл лекцый па гісторыі, этнаграфіі, культуры Беларусі, не паклапаціцца пра выкладчыкаў, якія б чыталі гэтыя лекцыі на зборах куратараў маладзёжных аб'яднанняў? Чаму б маладзёжным суполкам не мець свае знакі адрознення, у якіх прысутнічала б нацыянальная сімволіка? Чаму б ТБМ не арганізаваць для школьнікаў летнія лагеры вандроўкі па родным краі з мэтаю вывучэння гісторыі, фальклору? Чаму б ТБМ не знайсці на гэта сродкі сумесна з райана, камсамолам?**

**Можа, час дапамагчы нашым дзецям, каб потым дапамаглі яны нам усім? За кім пойдзе нашая моладзь: за ідэаламі Паўліка Марозава ці за ідэямі нацыянальнага Адраджэння?**

Віктар ВАРАНЕЦ,
старшыня Гродзенскай раённай рады ТБМ імя Францішка Скарыны.




Чэрвеньскі нумар часопіса адкрываецца артыкулам «Беларусы», у якім разглядаюцца гістарычныя этапы развіцця нацыянальнай свядомасці нашага народа. Другі артыкул у раздзеле «Школа і нацыянальнае адраджэнне» — «Даражыць родным словам» — прысвечаны пытанням беларусізацыі школ на Міншчыне.

Экскурсам у мінулае Бацькаўшчыны з'яўляецца і артыкул «Гісторыя Беларусі ў падзеях і асобах». Падзеі даўніх часоў разглядаюцца праз прызму беларускай драматургіі.

Часопіс працягвае знаёміць сваіх чытачоў з сучаснай беларускай паэзіяй — у чарговым нумары (артыкул «Дарога без прывалу») — ідзе размова пра творчасць Анатоля Вялюгіна.

Сотым угодкам Максіма Багдановіча прысвечаны артыкулы пра музеі паэта, якія ствараюцца, пра вяззскі перыяд яго жыцця (у Вяззі ён гасцяваў у дзяцінстве). Сцэнарый літаратурнага вечара «Што зрабіць мне, каб кветкі не звялі» па творчасці М. Багдановіча могуць выкарыстаць не толькі настаўнікі, але і ўсе, хто арганізуе ў летні час работу з дзецьмі.

Два артыкулы прысвячаюцца 150-м угодкам Элізы Ажэшкі — польскай пісьменніцы, якая з любоўю апісвала звычаі, побыт беларусаў, жыла ў Гродне. У матэрыяле «Беларусы ў Польшчы» ўтрымліваюцца цікавыя звесткі пра рассяленне нашых суайчыннікаў за Бугам.

У шостым нумары пададзены багаты метадычны матэрыял для настаўнікаў беларускай мовы.

Нагадваем: часопіс распаўсюджваецца ў асноўным па падпісцы. Кошт на год — 7 руб. 20 кап.

**І. ЖДАНОВІЧ,**
**адказны сакратар рэдакцыі часопіса.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Рэдактар Эрнест Ялугін**
**Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека (нам. рэдактара), Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.**
**Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.**

**Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 6.814 паасобнікаў. Заказ 2448. Індэкс 74975.